# БЕЛАРУСКІ
# СЬПЕЎНІК



Выданьне С. СТАНКЕВІЧА
Вільня — 1925.

Паважанай М. Надзеі Каладзянцы

[signature]

15/VI 25 г.

## АБМЫЛКІ Ў ДРУКЎ:

| | надрукавана | — | павінна быць: |
|---|---|---|---|
| 3 стр. | загаловак Аліначка | | —Каліначка. |
| 3 „ | 1 радок зверху Аліначка | | —Каліначка. |
| 6 „ | 9 і 10 радок зверху Ці | | —Ні |
| 6 „ | 1 радак знізу чорны бровы мае | | --Што чорныя бровы. |
| 7 „ | 3 радок зверху Матеры | | —Маці |
| 10 „ | Пасьля кожных двух радкоў, Гэй, гэй, і. т. д. як на стр. 30. | | |
| 18 „ | Пасьля кожнага радка Ух — я. | | |

# БЕЛАРУСКІ

папулярны

# СЬПЕЎНІК



Выданьне С. Станкевіча.

Вільня---1925.

Сьпеўнік гэты можна дастаць у Беларускай Кнігарні В І Л Ь Н Я, Завальная 7 і ва ўсіх лепшых кніжных крамах.

ODBITO W LITOGRAFII „D. MAC i SYN" WILNO, DĄBROWSKIEGO 3

## ОЙ,СТАЯЛА АЛІНАЧКА.

Ой,стаяла Аліначка
На захадзе сонца,
Ой,плакала дзяўчыначка
Гледзячы ў ваконца.
Німа маяго мілога
Німа маей душкі...
Каму-ж тады дастануцца
Пуховы падушкі...

## Ой,пайду я лугам...

Ой,пайду я лугам лугам,
Дзе мой мілы арэць плугам.
Ой,пайду я лугам,лугам.
Ён арэць поле валамі,
А я плачу ўсе сьлязамі.
Ён арэць поле валамі.
Занясу я яму есьці,
Ці ня скажа ён мне сесьці?
Занясу я яму есьці.
Занясу я яму піці,
Ці ня будзе гаварыці?
Занясу я яму піці.
І наеўся,і напіўся,
Сеў на камень засмуціўся.
І наеўся і напіўся.
Штож ты,мілы мой думаеш,
На мяне не пагля́даеш?
Штож ты,мілы мой,думаеш.
А я сяджу ды думаю,
Што благую жонку маю.
А я сяджу ды думаю.
Браў мяне ты ў дзень,ня ў ночы,
Дзеж тады свае меў вочы?
Брау мяне у дзень ня ўночы.

## Мне ня сьпіцца...

Мне ня сьпіцца не ляжыцца
І сон мяне не бярэ,
Пайшоў бы я да дзяўчыны
Сам ня знаю дзе жыве.

Папрасіў бы таварыша
Хай мяне ён завядзе,
А таварыш крашэй мяне
Ён дзяўчыну адабье.

Маці сына усё пытае:
-Што сынок табе баліць?
Сынок матцы прамаўляе,
Што пара яму любіць.

## ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК.

Зялёны дубочак
На яр пахіліўся.
Малады малойчык
чаго засмуціўся?

Ці валы прысталі,
Ці з дарогі збіўся,
Ці ў карчомцы пьяны
З суседзьмі пабіўся?

Ці валы прысталі,
Ці з дарогі збіўся?
Малады малойчык
Бяз долі радзіўся.

Долі ён ня мае,
Дзяўчыны ня знае;
Усей толькі долі,-
чорны бровы мае.

## Ці ўсе лугі пакошаны.

Ці ўсе лугі пакошаны,
Ці ўсе сеножаці?-
Пытаецца сын у матеры,
Ды каторую узяці.

Ой ці тую багатую,
Што прыгожа ходзіць?
Ой,ці тую ды бедненькую,
Што возьме то ўсе зробіць?

Ў нехарошай ды ў багатай
Валы ды карэвы,
А ў беднай сіраціначкі
Толькі чорны бровы.

Ў нехарошай ды ў багатай
Валы паздыхаюць,
А у беднай сірацінечкі
Бровы не зьлiняюць.

# Сіротанька.

Ляцеў галуб ды над морам-
Пачаў з мора піць.
Ой,цяжанька сіротаньцы
Ды на сьвеце жыці.
    Даў Бог ручкі,даў Бог ножкі
    І сьветлыя вочкі-
    Гаруй,працуй,сіротанька,
    Аж да цёмнай ночкі.
Ах,Божа-ж мой мілюсенькі!
Ці-ж я не рабіла,
чаму-ж мая работанька
Нікому ня міла?!
    Ой,выйду я на вуліцу,
    Стану за вароты-
    Хто ідзе,той запытае:
    Што плачаш,сірота?
Ой плачу я,сіротанька,
Плачу маладая,
Што ніхто мне ў нешчасьційку
Не паспагадае.

## Не кукуй ты...

Не кукуй ты,шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары::
Мо і скажаш,што я жыці буду,
Але лепш не гавары.

Бо ня тое сьведчыць маё сэрц
Грудзі хворыя мае,
Боль у іх мне душу агартае
Сэрцу голас падае.

Кажа,што ня доўга пажыву я ,
Што загіну бяз пары...
Прыляці-ж тады ты на магілу
Закукуй,як у бары.

Ой, у лесе, пры даліне,
У нас сталася бяда:

Пры даліне, ў гушчары,
Калыхаліся камары.

Дуб да дуба нахіліўся –
Камарок з дуба зваліўся.

Пабіў камар патыліцу
Аб дубову карыніцу.

Ой, пабіў камар бакі
Аб дубовыя сукі.

Ды пабіў камар калені
Аб дубовыя кареньні.

Высыпаліся ўсе зубы
З камаровай губы.

Ляціць муха ратаваць
Зімнай вадой адліваць.

Камарочак, родны браце,
Як жаж цябе ратаваці?

Пасылайце да аптэкі,
Ці ня будзе троху лепей.

У бальніцу завядзіце
І мяне там палажыце.

Там добрыя дахтары
Выймуць душу без пары.

Камарочку,родны браце,
Дзе-ж мне цябе пахаваці?

-Не хавайце пры даліне,
Бо вырыюць мяне сьвіньні.

Не хавайце край дарогі,
Бо дратаваць будуць ногі.

Пахавайце у цёмным лесе
Пры зяленeнькім гаресе.

Будуць.гарэхі шчыпаць
І камара успамінаць.

А ды чый жа гэта помнік?
Ці маёр тут,ці палкоўнік?

Ні маёр тут,ні палкоўнік
А сам камар-супакойнік.

Не пагаснуць зоркі у небе.

Не пагаснуць зоркі ў небе
Покі неба будзе -
Не загіне край забраны
Покі будуць людзі.

Ночка щёмная на сьвеце
Вечна не пануе -
Зерне, кінутае у ніву,
Ўсходзе дн красуе.

Беларускаю рукою
Сьветлай праўды сіла
Славу лепшую напіша
Беларусі мілай.

Зацьвіціць наш край, як сонца
Пасьля непагоды,
У роўнай волі ў роўным стане
Між усіх народаў.

## Зорка Вэнэра.

Зорка Вэнэра ўзыйшла над зямлею,
Сьветлыя згадкі с сабой прывела...
Помніш,калі я спаткаўся с табою,
Зорка Вэнэра ўзыйшла.

З гэтай пары я пачаў угдядацца
У неба начное і зорку шукаў;
Ціхім каханьнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.

Але,разстацца нам час наступае;
Пэўна ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе,дарагая,
Але разстацца нам час.

Буду ў далёкім краю я нудзіцца
У сэрцы любоў затаіўшы сваю,
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.

Глянь іншы раз на яе у разстаньні,
Там з ей зліем мы пагляды свае,
Каб,хоць на міг,уваскрэсла каханьне
Глянь іншы раз на яе.

Ты,зяленая дубрава.

Ты,зяленая дубрава.
Сон скідай,расьцьвітай
І шумеці добрай славай
Не кідай на ўвесь край.
    Гамані,разходзься шумам
    Ад мяжы да мяжы...
    Ўлій надзею вольным думам
    Аб усім раскажы.
Казку бывшых песьнясьпеваў
распалі,разагрей;
Размяці управа,ўлева
Сухацьвет-сухавей.
    Маладыя загаворы
    Ўход пусьці,сатвары
    Яснаглядам горы,долы
    Асьвяньці прыбяры.
Кінь разгонна весьці сьвету
Аб сабе,аб сяўбе,
І да неба вестку гэту
Данясі у кляцьбе.
    Абнімісь з нівай роднай
    І душой і грудзьмі;
    Край прыбіты-непагодны
    Ўскалыхні,падымі!

## Ці сьвет,ці сьвітае.

Ці сьвет,ці сьвітае,
Ці на зоры займае...
Ці мой міленькі,галуб сівенькі,
Коніка сядлае?
Сядлай мілы каня,
Каня вараненькага,
Прыяжджай мілы,не кідай мілы,
Мяне маладзеньку.
Ці я не такая,
Як і гэна,другая?
Яй-й харошая і прыданая-
Доля-ж нешчасная.
Ой,ў полі азерца
Там плывала вядзерца...
Ой прыдзі мілы,дай парадзімся,
Мае мілае сэрца.
чырвона каліна
Да у полі павяла...
Не суверная да дружынанька
Мне сьвет завявала.
Ты пойдзеш гарою,
А я даліною.
Кажуць мне людзі,дый сама знаю,
Што ня жыць мне с табою.

## Ой, ляцелі гусі...

Ой, ляцелі гусі
З далекага краю,
Ваду замуцілі
На ціхім Дунаю.

Бадай тыя гусі
Ды-й марна прапалі;
Як мы любіліся–
Цяпер перасталі.

Як мы любіліся–
Нас бяда ні знала;
Цяпер разыйшліся.
Як цёмная хмара.

Цёмна хмарка ідзе
Дробны дождрык ідзе.
З нашага каханьня
Нічога ня будзе.

Гэй ты,Нёман-рака.

Эх ты,Нёман-рака!
Ці ты думаў,ці сьніў,
Як сьлязу мужыка
У свае воды лавіў.

Як стаяў над табой
Сын нядолі худы
І над цёмнай вадой
Сьпеваў песьні нуды.

Што надойдзе пара,
Зьнемажэньне міне-
Адраджэньня зара
Над народам зірне.

Што з балючых грудзей
Беларусі дзяцей
Над табой загудзіць
Пэсьня вольных людзей.

## Былі ў бацькі тры сыны.

Былі ў бацькі тры сыны,
Ды ўсе-ж яны Васілі.
Адзін служыць у дварэ
Поле панскае гарэ;
Другі стражнікам з іх стаў,
Куляй, шабляй засьвістаў;
Трэці згінуў у баю
За свабоду і зямлю.
Бацька у вёсцы свaей сьпіць
І дуда пры ім ляжыць.
Ён часамі дзьме ў яе,
Песьню нудную пяе:
„Ой, ты дудка, ой дуда!
Бяда жыці мне, бяда!
Не вясяліш ты мяне
У маей беднай старане."

## Л Я В О Н І Х А.

А Лявоніху Лявон любіў,
Лявонісе чаравічкі купіў.
Лявоніха,душа ласкавая,
чаравічкамі паляскавала.

А Лявоніха ня жонка была:
Ня мытую мне кашульку дала;
Ня мытую,не качаную
У суседа пазычаную.

Як я молада ў матулькі жыла,
Як вішанька у садочку цьвіла.
Цьвіла,цьвіла ды пацьвітавала,
З малайцамі ды пагулівала.

Ой,згубіла мяне мамачка мая,
Што за цябе мяне замуж аддала
Ой,чаму цябе пярун не забіў
Як ты мяне,маладзеньку,любіў.

## Беларуская зямліца.

Беларуская зямліца
Мяне ўзгадавала,
Маці ў мове беларускай
Песьні мне сьпявала.

Гэта мова і край родны
Над усё мне мілы:
Ні магу іх адчурацца
Да самай магілы.

Ні магу іх адчурацца,
Як рукі,як вока.
Нехай слава Беларусі
Слыве ў сьвет шырока!

## Да Беларусі.

Беларусь, ты не загінеш!
Беларусь, ты не памрэш!
Волі-долі не пакінеш,
Варагоў перамажэш!

Беларусь, ты маеш многа
Сёл, мястэчак, гарадоў
І дадуць яны даволі
За свабоду ваякоў.

З імі крыж свой цяжкі здымеш
Тэй нядолі, што нясеш...
Беларусь, ты не загінеш!
Беларусь, ты не памрэш!

## Ой,паехаў сын Даніла.

Ой,паехаў сын Даніла
Ды на Русь на вайну,
Гэй,пакінуў сын Даніла
Кацярыну-жану.

Гэй,пісала яго маці
Тры лісточкі да яго:
„Гэй,вярніся ты,Даніла,
Да-й да дому сваяго.

Ды ўжо твая Кацярына
Свая волю паняла,
Коні твае вараныя
Пазаеждзывала.

## ЕДЗЕ ЯНКА Ў ПОЛЕ.

Едзе Янка ў поле,
Едзе ваяваці,
А дзяўчына,як маліна
Выйшла праважаці.

Адчапіся дзеўка,
Што ты ка мне маеш!
Бачыш еду на пабеду,
А ты замінаеш.
    Журыцца дзяўчына,
    Што Янук пакінуў.
    Той паехаў на пацеху
    Бараніць Айчыну.
Доўга,ці каротка
Ваяваў наш Янка,
Аж у вёску ён дарожкай
Прэцца,як маланка.
    І дамоў прыехаў
    З тэй вайны,здалёку,
    А дзяўчына,як маліна
    Пазірае збоку.
Падыйдзі дзяўчынка,-
Ці-ж мяне ня знаеш?
Бачыш,еду я с пабеды
А ты ані дбаеш!
    Цешыцца дзяўчына,
    Што Янук ня згінуў.-
    Той ураз-жа ей і кажа:
    Убараніў Айчыну.

## Жыў на сьвеце Лявон.

Жыў на сьвеце Лявон.
Молад,дужы быў ён,
Толькі з воляй і доляй не бачыўся;
Сонны сэрцам душой
Драмаў ў хаце крывой,
А выходзіў-сьлязамі сьлед значыўся.

Аж,вось,чуе Лявон
Са ўсіх клікі старон,
Што ён дурань:жыве па быдлячаму;
Ды й сам тут зразумеў,
Што дум сьветлых ня меў,
Што падобен быў дрэву хадзячаму.

Зварухнуўся Лявон,
Як вада,як агонь...
Пазнаў сілу ў сабе нябывалую.
Ўжо бяда-не бяда,
Ўжо нуда-не нуда:
Запеў песьні свае разудалыя.

Зямля стогне, дрыжыць
Як пяе, як крычыць
Як прасьветы сабе дамагаецца
Аж ад песень такіх
Страх напаў на другіх
І вось, чорная моц падымаецца.

І пайшло ўсё ўверх дном...
Сьвісты, енкі-кругом,
Груганы на дабычу злятаюцца;
Шчасьце даць бедаку
Ня ўсім шло на руку
Ня ў руку, што Лявон прачыхаецца.

Дарма сілен Лявон
І адважны так ён,
На падмогу дарма ён надзеецца
Галаву у баю
Даў за праўду сваю,-
Толькі памятка-насып віднеецца.

Ляжыць-дрэмле Лявон
На грудзёх вырас клён;
Калі-ж вецер па сьвеце разходзіцца
Шуміць шумна той клён
Яшчэ ўстане Лявон.
Гэй, Лявоны у нас не пазводзяцца!

## А у лесе грыбы зарадзілі.

А у лесе грыбы зарадзілі,
Каб дзяўчаты па іх не хадзілі,
Каб дзяўчаты па іх не хадзілі.

Адна дзеўка ў лесе заблудзіла,
Маладая ў гаю заблудзіла.
Маладая ў гаю заблудзіла.

Прыблудзіла к зялёнаму дубу,
-Ой,тут жа я начаваці буду,
Ой,тут жа я начаваці буду.

Яж думала,што дуб зеляненькі,
Ажна стаіць хлапец маладзенькі,
Ажна стаіць хлапец маладзенькі.

# ДУДА.

Саўка ды Грышка ладзілі дуду.
Ду-Ду-ду-ду,ду-ду-ду-ду
Ладзілі дуду.
Ладзілі славіць дудой Каляду.
Ду-ду-ду-ду ...
Дудой Каляду.
Як разышліся мужыкі гу-га!
Гу-га-гу-га...
Музыкі гу-га!
Згінула гора,згінула туга.
Туга-туга...
Згінула туга.
Язэп старэнькі ёмкі ўзяўшы скрут,
Ту-ту-ту-ту...
Ёмкі ўзяўшы скрут.
Кіем на дзьверы паказаўшы тут.
Ту-ту-ту-ту...
Паказаўшы тут:
Вы сабе дуйце сваё го-ца-ца,
Го-ца-ца-ца...
Сваё го-ца-ца,
Толькі ня страшце Езуса Хлапца.
Ца-ца-ца-ца,ца-ца-ца-ца,
Езуса Хлапца.

## Абнімі,прыласкай.

Абнімі,прыласкай
Зроб шчасьлівым мяне...
Спадзевайся чакай-
Буду ўдзячны табе.

Для мяне ты усё
Я жыцьця не цаню;
На сумленьне тваё
Вось сябе аддаю.

Не дазволь смуткавадь
Табе лёгка зусім
Слоўцы два-тры сказаць
І усьмяхнуцца пры тым.

Ці я сплю,ці хаджу,-
Думкі усе аб табе...
Яй на яве брадку,
чую жар у сабе.

Дык вазьмі прыласкай
І пацеш ты мяне,
Дый не дарма-ж,чакай,-
Буду ўдзячны табе.

## Ты,дубочак...

Ты,дубочак зеляненькі,
Шырокі лісьць на табе
Гэй!Ты малойчык маладзенькі-
Дурны розум у цябе.

Ты,дубочак зеляненькі,
Ціха лісьцем зашумі.
Гэй!Ты,малойчык маладзенькі,
Сваім розумам трахні.

Ой,дубочак зеляненькі,
Да бярозачкі схіліся.
Гэй!Ты,малойчык маладзенькі,
Да дзяўчыны прытуліся.

Як бярозачка дубочак
Будзе моцна шанаваць
Гэй!Так цябе я,мой малойчык,
Буду ўвесь свой век кахаць.

## Гэй, у лесе пры даліне.

Гэй, у лесе, пры даліне,
У нас сталася бяда.
    Гэй, гэй! ў лесе, ў лесе
    У нас сталася бяда.
К нам там выйшла насустрэчу
Дзяўчынанька малада.
    Гэй, гэй! выйшла, выйшла
    Дзяўчынанька малада.
А мы хлопцы ўсе ня зломкі-
Спадабалі ўсе яе.
    Гэй, гэй! хлопцы, хлопцы
    Спадабалі ўсе яе.
Кожны лезе па жаўнерску
Прытуліці да сябе.
    Гэй, гэй! лезе, лезе
    Прытуліці да сябе.
Чуць ня сталі нашы хлопцы
За дзяўчыну біцца там.
    Гэй, гэй! сталі, сталі
    За дзяўчыну біцца там.

Аж тут кажа камандзір наш
Кінуць жэрэбя ўсім нам.
    Гэй,гэй!кажа,кажа
    Кінуць жэрэбя ўсім нам.
Хто лёс будзе мець шчасьлівы,
Будзе мець дзяўчыну той.
    Гэй,гэй!будзе,будзе,
    Будзе мець дзяўчыну той.
А так біцца за спадніцу
Не гадзіцца,дружа мой.
    Гэй,гэй!біцца,біцца
    Не гадзіцца,дружа мой!
Вось мы лёсы пацягнулі...
Ах,каб цёмны на іх вір!
    Гэй,гэй!лесы,лесы...
    Ах каб цёмны на іх вір!
Самі,братцы,пасудзіце,-
Выйграў дзела камандзір.
    Гэй,гэй!братцы,братцы!
    Выйграў дзела камандзір.

# Будзь здаровы бацька,маці.

Будзь здаровы бацька,маці
Мы пайшлі ўжо ваяваці.
Сьвішча куля пяй-ха-ха.
Каля вуха дзяцюка.
Што за доля,што за воля
Жаўняроньку выйсьці у поле!
Сьвішча куля пяй-ха-ха.
Каля вуха дзяцюка.
Нам ня ў цям віхры,грымоты:
Дадае нам гром ахвоты.
Сьвішча куля пяй-ха-ха.
Каля вуха дзяцюка.
Днём ваюем,ночкай дрэмем
А што блізка ворагкемім.
Сьвішча куля пяй-ха-ха.
Каля вуха дзяцюка.
Сьпім на ўзьмежку,пад ігрушай
Дождж-ык моча,сонца суша.
Сьвішча куля пяй-ха-ха.
Каля вуха дзяцюка.

